Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 30. Вільня, 15 кастрычніка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8 – 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Першая конфэрэнцыя прыхільнікаў „Беларускага Дня“.

25 кастрычніка адбудзецца падгатоўчая нарада (конфэрэнцыя) актыўных прыхільнікаў „Беларускага Дня“.

Наша маладая газэта першы раз станець перад грамадзкім судом нацыянальна сьвядомых беларусаў, якія сваёю мэтаю ставяць адраджэньне беларускага народу і працуюць актыўна ў гэтым кірунку.

Якія галоўныя задачы стаяць перад гэтаю нарадаю?

Бязумоўна, што палітычнае пытаньне, напрамак газэты „Б. Д.“ сконцэнтруець на сабе галоўную ўвагу нашых актыўных прыхільнікаў. Ідэя Незалежная Беларусі, якая прапаведуецца намі ў сувязі з прызнаньнем і падтрыманьнем ідэі незалежнасьці Польшчы, ідэя супрацоўніцтва і братэрскага сужыцьця палякоў і беларусаў, — наша пазыцыя ў адносінах да іншых беларускіх групаў: Грамады, Сельсаюзу, групы Паўлюкекевіча, нашы адносіны да польскіх левых дэмакратычных групаў, з якімі панашаму павінен быць нанова навязаны контакт і супрацоўніцтва—ўсе гэтыя пытаньні ў сучасны момэнт, пры ўрадзе маршалка Пілсудскага, маюць настолькі важны і актыўны характар для беларускага руху, што павінны выклікаць самую жывую дыскусію.

Мы пераконаны, што гэтая дыскусія ў выніку сваім дасьць больш цьвёрдыя ідэолёгічныя падставы для працы „Беларускага Дня“ і будзець спрыяць замацаваньню сувязі нашае газэты з шырокімі нацыянальна сьвядомымі беларускімі масамі.

Бязумоўна, што ў сувязі з крытыкаю палітычнага напрамку газэты, на нарадзе будуць прапазыцыі *заснаваць пэўную палітычную арганізацыю*, органам якое павінен у будучыне стаць „Беларускі Дзень“.

Рэдакцыя газэты, якая зьяўляецца і ініцыятарам і арганізатарам гэтае першае нарады сваіх прыхільнікаў, зусім здаець сабе справу наконта важнасьці гэтага пытаньня і ў адказ на такія прапазыцыі ў сваю чаргу паставіць перад сваімі аднадумцамі пытаньне: Ці ёсьць *гістарычная патрэбнасьць* заснаваньня гэтае новае беларускае палітычнае арганізацыі, галоўнаю задачаю якое было-б ажыцьцяўленьне ідэяў „Беларускага Дня“?

Калі адказ будзець пазытыўны, калі для ўсіх удзельнікаў нарады станець зразумелым і ясным, што ёсьць *такая патрэбнасьць*—арганізацыя будзець заснавана, не зважаючы на ўсе труднасьці і перашкоды, якія бязумоўна будуць рабіцца з боку ўжо існуючых палітычных беларускіх групаў.

Будзець заснавана таму, што *сіла пераканаоньня* мацнейшая за ўсе сілы, і нішто ня можа ўстрымаць групу аднадумцаў ад актыўнага і арганізованага пашырэньня сваіх ідэяў. Пішам аб гэтым сягоньня таму, што ўжо даўно сярод паасобных нашых прыхільнікаў падымалася і ставілася перад

рэдакцыяй „Б. Д.“ пытаньне аб заснаваньні новае беларускае палітычнае партыі. З кожным днём гэтая думка набывала ўсё большую і большую папулярнасьць сярод нашых чытачоў. І вось разумны, абаснованы адказ на пытаньне: „ці патрэбна арганізацыя, партыі?“ і ёсьць першаю задачаю нарады 25 кастрычніка. Калі адказ будзець позытыўны, а ён будзець напэўна такім, далейшым заданьнем нарады будзець разглядзець і прыняць часовы арганізацыйны статут і хоць-бы ў агульных формах намеціць праграмныя і тактычныя тэзы. Выяўляючы сваю шчырую, поўную гатоўнасьць памагчы афармленьню пэўных думак, якія насьпяваюць у беларускім грамадзянстве і якія сьведчаць аб новых пераломных працэсах у беларускім руху, папераджаем аднак усіх сваіх аднадумцаў, што заснаваньне палітычнае арганізацыі ня ёсьць жартам, што праца запраўднае беларускае партыі — гэта ня ёсьць забава, а трудная, вельмі трудная, ахвярная праца, разьлічаная не на сэзон і танныя эфэкты, а на доўгія часы і дзесяцьгодзьдзі.

Для людзей, слабых духам, для трусоў і кар‘ерыстых, для тых, хто шукае сабе матар‘яльных выгадаў і мандатаў, для інтрыганаў і прадажных людзей — няма і ня можа быць месца ў Беларускай Народнай партыі, якое яшчэ няма, але якая мусіць паўстаць і арганізованна змагацца і працаваць над ажыцьцяўленьнем ідэалаў вякамі паняволенага і патоптанага народу Беларускага.

---

## Літоускія здарэньні.

Апошнія здарэньні ў Літве знайшлі гучны водгук ня толькі ўва ўсёй Польшчы, але і ўва ўсёй Эўропе. Рэч зусім зразумелая і натуральная, што польскае грамадзянства не магло спакойна прайсьці міма факту поўнага разгрому польскае школы ў Літве і зачыненьня ў концэнтрацыйным лагеры сотняў польскіх настаўнікаў толькі за тое, што яны, выпаўняючы свой грамадзкі абавязак, вучылі польскіх дзяцей у польскай мове. Але не адзін гэны факт быў прычынаю таго абурэньня, якім закіпела ўся Польшча.

Проект зьмены Літоўскай конституцыі, нарыхтованы ўрадам Вальдэмараса ў тым сэнсе, што ў склад Літоўскае Дзяржавы ўваходзіць таксама і ўся Віленшчына з Вільняй і часткай Горадзеншчыны, гэная, калі так можна сказаць, ідэйная анэксыя Літвою земляў, якія ляжаць у межах Польскае дзяржавы, ня менш, чым разгром польскае школы—былі прычынаю гэнага абурэньня і толькі падлілі масла ў агонь. Ведама абодва гэныя здарэньні былі лёгічным вынікам тых ненармальных адносін, якія дагэтуль істнавалі і істнуюць паміж Літоўскім урадам і Польшчаю.

Адносіны гэныя літоўскія ўрады характарызуюць, як стан вайны. Праўда, ў вайне гэнай ня чутно гарматных стрэлаў, няма ваенных апарацыяў, ня льецца кроў. Вайна гэная палягае на тым, што літоўскі шовіністычны ўрад ня хоча навязаць дыплёматычных зносін з Польшчай, ня хоча гаварыць з ёю і, дзе толькі можа, стараецца шкодзіць Польскай дзяржаве. Ведама, жыцьцё ў гэты стан уводзіць свае карэктывы. Ня гледзячы на кітайскі мур, якім Літоўскі ўрад хоча адгарадзіцца ад Польшчы, сувязь паміж Літвою і Польшчаю істнуе. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, жыцьцё прабівае вузенькія шчэлачкі, а часам і большыя праломы ў гэнай сьцяне.

Іначай і быць ня можа.

Лёс гістарычных падзеяў залішне моцна зьвязаў абодва народы вузламі эканамічнымі і палітычнымі, каб якая-нібудзь сіла магла гэныя вузлы парваць. Гэты ненармальны стан па сутнасьці сваёй зьяўляецца гвалтам над народнымі масамі Літвы і Польшчы, якія нясуць з гэтае прычыны вялікія матар'яльныя і моральныя страты. І калі дзяржаўны арганізм 30-ёх мільённай Польшчы можа трываць у гэным стане і разьвівацца, то стан такі для маленечкай 4-ох мільённай Літвы зьяўляецца самагубствам. Гэта добра разумеюць прадстаўнікі Польскае Дзяржавы, якія рознымі спосабамі стараліся навязаць перагаворы з Літвою ў справе спыненьня гэнага ненармальнага зьявішча, гэтак шкоднага абодвым народам.

Шмат у гэным напрамку зрабіў урад Пілсудскага. Але ўся добрая воля прадстаўнікоў польскага ўраду разьбівалася аб каменную сьцяну літоўскіх шовіністычных палітыкаў, якія бязумоўным варункам перагавораў ставілі: „Аддайце нам Вільню з Віленшчынай, тады будзем гаварыць з вамі“.

Ведама, ніводзін польскі ўрад ня мог здаволіць гэнага жаданьня Літвы, і ненармальны стан трываў далей.

Без канца ён трываць ня можа, і барацьба літоўскага ўраду за Вільню мусіла з часам выліцца ў нейкія больш рэальныя формы.

І вось гэны разгром польскай школы ў Літве і зьмена конституцыі — гэта нішто іншае, як новы этап барацьбы ўраду Вальдэмараса за Вільню.

Мусім ад‘значыць, што форма барацьбы, прынятая літоўскім урадам, у постаці ўдару па польскай школе ў Літве, гэным найвялікшым скарбе кожнага народу, ня можа выклікаць спачуцьця з боку іншых народаў. Беларускі народ, які вядзе бязупынную барацьбу за сваю родную школу, добра разуме , якога балючага месца дакнуў Літоўскі ўрад. І ў гэнай барацьбе польскага народу за сваю нацыянальную школу ў Літве ўсе сымпатыі нацыянальна сьведамых беларусаў будуць на старане літоўскіх палякоў. Справу роднай школы, гэную сьвятую сьвятых нацыянальных меншасьцяў, ня можна рабіць прадметам палітычнага гандлю, ня можна карыстацца ёю, як базай для вырашэньня якіх-бы ні было спрэчных палітычных проблемаў. І дрэнна зрабіў літоўскі ўрад, руйнуючы польскія школы ў Літве! Гэным ён не здабыў сабе прыхільнікаў паміж іншымі народамі. Для нас зьяўляецца зусім зразумелым тое абурэньне, якое ён выклікаў у шырокіх масах польскага народу, для нас зьяўляецца зусім зразумелай і тая рэакцыя, якую ён выклікаў з боку польскага ўраду ў постаці часовых арыштаў у межах Польшчы, якія былі зроблены пад мо-

ральным націскам усяго польскага грамадзянства. Нам здаецца, *што калі-б гэтых арыштаў ня было*, антылітоўскія настроі сярод палякоў маглі-б выліцца ў форму стыхійных дзікіх эксцэсаў проціў літоўскае меншасьці ў Вільні, што для абодвых народаў было-б толькі вялікаю шкодаю.

Нашыя сымпатыі ня могуць быць на баку ўраду Вальдэмараса яшчэ і таму, што гэты псэўда-літоўскі ўрад душыць свой уласны народ, доказам чаго зьяўляецца бязьлітасны тэрор Вальдэмараса проціў сваіх палітычных праціўнікаў. Палявыя суды, сотні арыштованых народнікаў і соцыяль-дэмакратаў, эміграцыя літоўцаў у Нямеччыну і Польшчу — усё гэта сьведчыць аб тым, што ў асобе Вальдэмараса і Сьметоны мы ня маем праўдзівых мудрых рэпрэзэнтантаў літоўскага народу, а авантурнікаў і заядлых шовіністых, якія кампрамітуюць ідэю Незалежнае Літвы і пхаюць літоўскі народ на шлях палітычных авантураў, якія могуць скончыцца для Вальдэмараса і яго сатрапаў катастрофай. *Ф. У.*

## АДМІНІСТРАЦЫЯ „БЕЛАРУСК. ДНЯ“

паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпіснай платы, абяцаючы прыслаць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прыслаць у найбліжэйшым часе, бо тым, хто падпіскі ня прышле, часопісь *„Беларускі Дзень“* высылацца ня будзе.

**Арганізацыйная Камісія** першага зьезду прыхільнікаў „Б. Д.“, гэтым даводзіць да ведама ўсіх жадаючых прыняць удзел у зьезьдзе, што для падгатоўкі зьезду 25 кастрычніка г. г. ў Вільні склікаецца нарада, якая мае на мэце распрацаваць плян работы зьезду і вызначыць дзень яго склікаґньня.

Запросіны на нараду будуць разасланы ў закрытых купэртах і падпісаны рэдактарам „Б. Д.“ Ф. Умястоўскім.

Лік запрошаных будзе абмяжованы, і толькі запрошаныя будуць мець права, калі ня маюць уласных сродкаў, на аплату падарожа за кошт рэдакцыі.

Прыехаўшыя *па сваёй уласнай ахвоце* могуць адтрымаць права прыймаць удзел у нарадзе, калі гэтае права прызнаець ім арганізацыйнае бюро, аднак, на зварот коштаў падарожжа могуць разьлічаць толькі ў над'звычайных выпадках. Па прыезьдзе ў Вільню, трэба зьвяртацца да тэхнічнага сэкрэтара арганізацыйнага бюра, які будзець дзяжурыць у рэдакцыі, Ціхая вуліца 4, кватэра 20 увесь дзень 24 кастрычніка да 12 гадзіны ночы і дасьць прыехаўшым патрэбныя спраўкі.

## Праца у самаурадзе.

Павятовыя самаўрадовыя установы: павятовы Соймік і яго выканаўчы орган Павятовы Аддзел (Wydział Powiatowy) маюць найбольшае значэньне ў самаўрадзе і яны вядуць усю гаспадарку павету, наколькі гэта ўваходзіць у межы дзейнасьці самаўраду. Згодна з 65 параграфам Конституцыі і пазьнейшымі уставамі, рэгулюючымі компэтэнцыю самаўраду і ўрадовай адміністрацыі, Павятовы Соймік зьяўляецца органам прававаўчым і кантралюючым дзейнасьць усіх самаўрадовых установаў у павеце. Соймік складаецца з выбарных ад кожнае воласьці і мястэчка ў ліку, прапарцыянальна да насельніцтва воласьці і места, ад 2 да 5 асобаў.

Соймік выбірае прэзыдыум, які зьяўляецца выканаўчым органам павятовага самаўраду, а ў дарозе нагляду над дзейнасьцю Валасных Радаў мае ўплыў на гаспадарку воласьцяў і местачковых магістратаў.

Гэны прэзыдыум Сойміку, званы Павятовым Аддзелам (Wydział Powiatowy), ў складзе ад 5 да 9 чалавек і пад старшынством, як аб гэтым кажа 67 параграф Конституцыі, Павятовага Старасты,—вядзе ўсю самаўрадовую працу ў павеце. Соймік—гэта як-бы павятовы парлямэнт, а яго Аддзелы—выканаўчы орган, самаўрадовы павятовы ўрад. На чале Аддзелу стаіць прадстаўнік урадовае адміністрацыі—Павятовы Стараста. Ён з гэтага тытулу ёсьць першым начальнікам усяе павятовае самаўрадовае адміністрацыі, як старшыня Аддзелу і Сойму. Нагляд і кіраўніцтва над гэнаю адміністрацыяй спраўляе Стараста цераз самаўрадовых урадоўцаў, падпарадкаваных павятовому Аддзелу і Сойміку.

Дужа часта ў нас можна спаткацца з закідам проці істнаваньня самаўраду, які так цесна вяжацца цераз Павятовага Старасту з агульнаю ўрадоваю адміністрацыяй. Гавораць пры гэтым, што самаўрад пры такой будове зьяўляецца лішнім і толькі накладае большыя падаткі на насельніцтва, якое мусіць плаціць пэнсіі цэлай масе самаўрадовых служачых. Быццам тое ўсё, што робяць гэныя, магла-б зрабіць урадовая адміністрацыя.

Каб адказаць на гэта, трэба ізноў зьвярнуцца да Конституцыі, якая устанаўляе самаўрад. Раз ён істнуе, абвешчаны галоўным законам, відаць правадаўца прывязваў да яго вагу, бо ўстанаўленьне Самаўраду ўвёў разам з устанаўленьнем падставовых формаў дзяржаўнага парадку ў Польшчы. Адміністрацыя мае іншыя мэты, другія заданьні зьяўляюцца прадметам урадовае адміністрацыі, чымся самаўраду. Выходзячы з аднаго й таго самага залажэньня—дабрабыту і парадку Дзяржавы, адміністрацыя і самаўрад узаемна дапаўняюцца, але маюць розныя галіны дзейнасьці і зусім адменны спосаб працы і арганізацыі. Адміністрацыя сцэнтралізована, выконвае загады, даваныя з цэнтру, з міністэрстваў,— самаўрад мае на мэце гаспадарыць у плошчы

## З жыцьця Наваградчыны.

У нядзелю 25.IX ў памешканьні воласьці Уселюб адбыўся арганізацыйны сход і залажэньне земляробскага гуртка пры ўдзеле дэлегатаў Наваградзкага Акружнога Земляробскага Т-ва п.п. Брахоцкага і Ярашэвіча, да нававыбранага ўраду ўвайшлі гр. гр. Рымшэвіч з Уселюбу, як старшыня, Вінцук Сьнігір са Шкеліч, як заступнік старшыні, Канстанты Пяткевіч са Слочвы, як сэкрэтар, поп Зубовіч, як скарбнік, і гр. гр. Сяргей Манюк з Уселюбу, Адам Сьнігір са Шкеліч, Станіслаў Дзядуль з Храпенева, Аляксей Знайдзяк з Лужкоў і Уладыслаў Муліца з Плісы, як сябры. Да Рэвізыйнай Камісіі выбраны Кс. Далецкі, Міхал Сургель і Станіслаў Хавай. Гурток зразу пачаў рэальную працу, дзякуючы дапамозе з боку Павятовага Сойміку, які даў Уселюбаві ўсе неабхолныя інсталяцыі на ўзорны пункт чышчэньня зярнят. Дня 18.X гурток ладзіць паказ інвэнтару і сэрыю земляробскіх лекцыяў. Склад нававыбранага ўраду гуртка ворожыць трываласьць першых пачынаньняў.

### Сход Земляробскага Гуртка ў Міратычах, Райчанскай воласьці.

24.IX. адбыўся сход Гуртка, на якім грам. К. Карповіч з Чомбрава меў вельмі цікаўную лекцыю аб істоце, дзеяньні і стасаваньні штучных гнаёў. Затым др. Я. Скібінскі парушыў справу разьвіцьця шаўковага промыслу. Апрача гэтага адбыўся паказ некалькіх апаратаў г. зв. распылячоў найнавейшай канструкцыі, служачых да барацьбы з шкоднікамі на палёх, садох і агародах і з інсэктамі ў хаце. Апараты гэныя адначасна могуць служыць да скрапліваньня расьлінаў, бяленьня сьценаў і г. д. На асаблівую ўвагу заслугоўвае апарат з меднай бляхі, вэнгерскай фірмы „Csepel“, працуючы пад вялікім націскам і абслужваны толькі адным чалавекам, які яго носіць на плечах. Паказу даканаў старшыня гуртка грам. Антон Скібінскі, карыстаючы з добрае волі люблінскай фірмы „Bohdan Drzewiecki i S-ka“, якая фірма ахвотна згадзілася пазычыць і перавязьці апараты на паказ. Сход позна закончыўся, зрабіўшы на прысутных карыснае і якнайлепшае ўражаньне.

### Дапамогі.

Міністэрства Земляробства пераказала да дыспазыцыі Саюзу Земляробскіх Гурткоў у Наваградку 3.200 зл., як другую дапамогу за арганізацыю земляробскіх выставак у Наваградку, Стоўпцах і Клецку і 250 зл. месячна на утрыманьне інструктара па пчалярстве.

Апрача гэтага, Міністэрства пераказала 900 зл., як субсыдыю на верасень для грамадзка-земляробскіх арганізацыяў дзеля падняцьця стану гадоўлі.

Міністэрства Земляробства прызначыла для Саюзу Земляробскіх Гурткоў Наваградчыны субсыдыю ў суме 600 зл. на куплю машыны для чышчэньня лёну пункту ачысткі насеньня ў Негневічах.



сваіх мясцовых інтарэсаў паводле тых патрэбаў, якія адчувае насельніцтва цераз выбраных ім-жа прадстаўнікоў і спосабамі, якія найлепш адпаведны для часу і месца. Самаўрад зьяўляецца як-бы скоопэрацызаванай гаспадаркай у павеце, але гэная коопэрацыя абдзелена законам прымусам, дзеля чаго самаўрад зьяўляецца установай публічнага, а ня прыватнага права.

Толькі самі зацікаўленыя ў сваіх патрэбах могуць якнайлепш іх заспакоіць. Толькі яны іх вычуваюць, ведаюць сродкі на заспакаеньне і найлепшыя спосабы апошняга.

Адміністрацыя залежна заўсёды ад цэнтру, ад палітычных настрояў гэнага, самаўрад, вядучы гаспадарчую і культурную галіны павету, зьяўляецца апалітычным і незалежным ад партыйных зьменаў ува ўрадзе і міністэрствах. Самаўрад разумна і ўмела ведзены, зьяўляецца менш каштоўным, не такім бюракратычным, як адміністрацыя і заўсёды лепш уплывае на гаспадарчае разьвіцьцё дзяржаўнага жыцьця, чым адміністрацыя, якая мае заданьне аховы парадку і ладу ў дзяржаве перад усім.

Самаўрад зьяўляецца працівенствам паліцэйскае дзяржавы, якая была ў XIX стагодзьдзі, але збанкрутавала, як адміністрацыйная сыстэма.

Ведама благі самаўрад, які нічога насельніцтву не дае, толькі ўкладае на яго цяжар утрыманьня, шкодны для насельніцтва.

У заходніх эўропэйскіх дзяржавах — Нямеччыне і Англіі самаўрад адыграў аграмадную ролю ў разьвіцьці багацтва і культуры гэных дзяржаваў, чаго не магло быць пры сыстэме паліцэйскае дзяржавы, калі сама адміністрацыя абыймае ўсе галіны жыцьця ў дзяржаве.

Недахопы самаўраду могуць вынікаць з дзьвёх прычынаў: або сама канструкцыя яго не адпавядае абставінам жыцьця ў данай мясцовасьці, або насельніцтва ня ўмее выкарыстаць тых магчымасьцяў, якія даюцца гэнай установай.

Пры сучасным ладзе самаўраду ў нас, у Заходняй Беларусі, большасьць закідаў процў самаўраду трэба аднясьці да гэтае другое прычыны. Народ ня звыкся з тым парадкам і магчымасьцямі, якія даюцца самаўрадам. Перавага ўплыву адміністрацыі, празьмернае значэньне Павятовых Старастаў, якія ня прыслухоўваюцца да голасу і волі Сойміку і выбарных, зьяўляецца таксама прычынай нарокі насельніцтва на самаўрад. Але гэта зьявішча пераходнага характару. Яго ня было-б, калі-б выбарныя добра орыентаваліся ў сваіх правох, яны заўсёды паказалі-б уласьцівае месца прадстаўніку адміністрацыі. Кожны сябра Сойміку і Павятовага Аддзелу павінен мець добра вырабленае пачуцьцё грамадзкасьці і быць добра асьвядомленым аб сваіх правох і абавязках, тады гэны ўплыў адміністрацыі ў асобе Павятовага Старасты быў-бы тым, чым паводле констытуцыі павінен быць.

Трэба думаць, што выбарныя ў самаўрад, Павятовыя Соймікі і Аддзелы, апраўдаюць узложаныя выбаршчыкамі на іх абавязкі, і гэную перавагу адміністрацыі спыняць для дабра насельніцтва і дзяржавы.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Якую шкоду прыносіць цераспалосіца і доўгазямельле надзельных зямель?

Гаспадараваньне на зямлі заўсёды было і ёсьць падставаю ўсяго грамадзянскага дабрабыту. Праца на зямлі, калі і не заўсёды дае самыя большыя, дык затое самыя мацнейшыя падставы дабрабыту, як для кожнае сям'і, так і для ўсей дзяржавы.

Кожная дзяржава для пракармленьня свайго народу патрабуе шмат спажыўных прадуктаў. Гэныя прадукты можна прывязьці з-за граніцы, але тады і дзяржава і ўвесь народ будзе заўсёды залежаць ад суседзяў. Вось дзеля чаго разьвіцьцё сялянскае гаспадаркі ёсьць асноваю росквіту краю. Дзе сялянская гаспадарка стаіць на вышыні прагрэсу, там дзяржава дае варункі для разьвіцьця цывілізацыі і культуры народу. Бывае, что дзяржава можа дайсьці да багацьця і сілы ад гандлю і прамысловасьці, але ўсё такі гэта не пракорміць дзяржавы і гэтакі народ будзе ў залежнасьці ад іншых народаў. Сялянская гаспадарка, альбо выраб прадуктаў часта знаходзіцца ў залежнасьці ад трох фактараў: ад самае прыроды, ад працы гаспадара і ад таго, як ён умее ўкладаць у гаспадарку грошы і сваю працу. Найбольшую вагу тут мае прырода, пасьля праца і грошы, і нарэшце ўменьне скарыстаць прыродныя багацьці зямлі. Дзе самая праца чалавека і грошы іграюць малую ролю, дзе няма ўменьня прылажыць сваю працу для карыстаньня зямлёю, гэтакая гаспадарка называецца *экстэнсыўнаю* і наадварот, гаспадарка, дзе на малы кавалачак зямлі траціцца многа працы з толкам, умеючы укладаюцца ў гаспадараваньне грошы, ад чаго бывае вялікая карысьць, такая гаспадарка называецца *інтэнсыўнаю*.

Экстэнсыўнасьць альбо інтэнсыўнасьць кожнае гаспадаркі дае агульнае паняцьце аб сыстэме сялянскае гаспадаркі, а першым прызнакам сыстэмы гаспадараваньня—ёсьць севаабарот альбо пладазьмен і распадзел ужытковых зямель гаспадара. Вось дзеля чаго ні адна цераспалосная сялянская гаспадарка ня можа быць названа інтэнсыўнаю, бо бяз зьмены яе сыстэмы ня можа быць разьвіцьця гаспадаркі. Гэткае гаспадараваньне яшчэ можна было цярпець у даўнія часы, калі ўсюды быў шырокі прастор, а народу было мала, зямлі многа і яна ня мела гэткае цаны, а самае важнае — тады было многа ўсюды прыроднае пашы для скаціны.

Орная зямля пры трохпалёўцы дзеліцца на тры кавалкі — у адным поле адпачывае пад папарам, другі — засяваецца азімымі, а трэці кавалак—на вясну яравымі і бульбаю. Але заўсёды трэба памятаць, што зямля пры трохпалёўцы дае вельмі мала корму для скаціны. Бо сена з балот зьбіраецца зусім мала і яно даецца толькі коням, якія амаль ня бачаць аўса, а каровы зноў зімою ня бачаць сена, а кормяцца адною саломаю. Галодная скаціна не дае віякіх прадуктаў, коні ня могуць працаваць, а к вясьне так худзеюць, што

---

Павятовы Самаўрад абымае перш за ўсё гаспадарчую галіну павету. Соймік устанаўляе буджэт (расклад прыходаў і расходаў на зьдзейсьненьне сваіх заданьняў у галіне гаспадаркі павету. Перад гэтым Соймік мае апрацаваць проект прадпрыемстваў і работ, якія ў гадавым пляне працы Самаўраду мусяць быць праведзены. Разумная і гаспадарчая дзейнасьць Сойміку павінна выходзіць з таго, што расходы маюць прытарноўвацца да прыходаў, інакш ніводная з пачатых работ, ці то будзе будова дарог, школаў, ці палепшаньне іншых галін жыцьця павету, ня будзе праведзена і даканчана.

Радныя павінны ўважна сачыць за тым, ці пляны гэных работ здаваляюць патрэбы павету, ці, прыкладам, проектуецца дарога па тым шляху, які такое дарогі, патрабуе, ці мо' выкладаюцца грошы на тое толькі, каб паляпшаць доступ у павет і праезд па павеце на паляваньні і ў госьці, А бывае і гэтак. Выдаткі на будову дарог, школаў, малачарняў і іншыя г. зв. інвэстыцыйныя расходы, якія ўжываюцца на прыватныя рэчы, ня могуць пакрывацца з падаткаў, а павінны паходзіць з даўгасрочных пазыкаў. Ці то з дарогі, ці са школы будзе карыстацца не адно пакаленьне і нельга абцяжваць на будову гэных трывалых інвэстыцыяў адно толькі пакаленьне. Дый яно ня зможа, ня руйнуючыся гаспадарча, вынясьці ўсяго цяжару выдаткаў.

Пры будове абавязвае добра пастаўленая беражлівасьць. Будова павінна аддавацца з публічных таргоў таму, хто найвыгадней возьмецца за яе. Часта бывае, што Соймік аддае будову сваім людзям, сваяком старастаў, паслоў, урадоўцаў — без таргоў, звычайна пераплачваюцца аграмадныя сумы пры такіх „сямейных“ адносінах і няма тады належнага кантролю.

Кожны жыхар павету, ня толькі сябра Сойміку, павінен ведаць, што ўсе самаўрадовыя работы і прадпрыемствы зьяўляюцца часткай яго ўласнае гаспадаркі. Лішнія расходы, растраты і бескантрольная гаспадарка, пры ўсялякіх самаўрадовых работах, руйнуе кожнага падатніка ў павеце. Дзеля гэтага ўсе павінны даносіць у Соймік аб такой неразумнай гаспадарцы. стараючыся забясьпечыць сябе ад непатрэбных расходаў і налогаў.

Сябры Сойміку ў гэтай кантрольнай рабоце могуць адыграць вялікую ролю да адбіраньня права вясьці работу ад нясумленных прадпрыемцаў — гэта іх першы абавязак.

У беларусаў яшчэ за царскіх часоў выраблілася пагаворка — „казна багатая — заплаціць“. Неразумная яна, бо „казна“, нішто іншае, як сума ўсіх падатковых уплываў з насяленьня. „Казна“ — гэта нашыя супольныя грошы, якія бяруцца ад усіх падатнікаў на вядзеньне гаспадаркі дзяржавы.

Сябры Сойміку зацьвярджаюць росьпіс выдаткаў і даходаў за прошлы год і ўстанаўляюць бюджэт на год наступны. Пры гэтым павінны пільна сачыць за тым, каб выдаткі ішлі на гаспадарчыя патрэбы, каб выдаткаваньне грошай было разумнае, каб не выдаваць іх на рэчы не-

ня могуць дзяржацца на нагах. Гною ад гэткага кармленьня гэтак-жа бывае мала, ня кажучы аб тым, што гной з аднае саломы або кіслага сена мае малую вартасьць. Словам, пры недастатку корму — няма гною, а калі мала гною, дык і ўраджай хлеба вельмі слабы. Бо вядомая рэч, няхай будзе поле меншае, але добра ўгноенае, тады яно дасьць ураджай вышэйшы, чым кепска ўгноены і апрацованы большы кавалак зямлі.

Цяпер, калі насяленьне прырастае, зямлі становіцца менш у дробных гаспадароў, а хлеба патрэбна больш, гэтакі парадак жыцьця, чым далей, бывае няпрыгодным. Значыць, трохпалёўка губляе свае правы, і трэба пераходзіць к новым формам гаспадараваньня: заводзіць многапольле, як мага больш сеяць траваў на палетках, сьпешна рабіць мэліорацыі на запушчаных і няўжытковых землях.

Палоскі альбо загоны аднаго гаспадара часта цягнуцца на дзьве і больш вярсты і загон складаецца з 6—8 плугавых бараназў. Вось-жа сеяць на гэтакім полі трудна, амаль зусім ня можна, араць поле вечна ў даўжыню—гэта ў рэзультаце дае бачкаваты загон поля, дзе ў сухі год выгарае ад сонца сярэдзіна поля, а ў мокры год—прападаюць нізкія бакі поля. Сухія вятры прадуваюць гэткі загон наскрозь. А сколькі пры гэткім карыстаньні зямлёю адходзіць поля на межы і баразны, якія аддзяляюць загончык зямлі аднаго гаспадара ад суседа! Калі падлічыць, то выходзіць, што вучастак зямлі з 20 дз. (у гэтым трэба лічыць якіх 5 дз. балота), будучы падзеленым паміж 4-х гаспадароў, што досыць часта бывае, і паложаны ў 9 кавалках або урочышчах, дае загон поля даўжыні 2 вярсты. Ад гэткага вучастку на адны баразны або разоры і межы—граніцы загонаў—адходзіць зямлі амаль ня тры дз., што складае 7% усяго абшару. З гэтага можна бачыць, сколькі непатрэбна прападае зямлі па ўсіх сёлах і вёсках пры такім карыстаньні зямлёю! Праўда, патрэбны будуць граніцы-межы і разоры і пры выхадзе гаспадароў на хутары, але тады кожны гаспадар будзе мець толькі граніцу аднаго свайго кавалка зямлі, а ня кожнае часьці яго, і прытым зробіць шырыню і даўжыню загону, якую яму трэба, а ня дзьве вярсты. Гэткім чынам, кожны гаспадар павялічыць сваё ўладаньне на 5—7%, апрача іншых выгадаў ад хутарскага гаспадараваньня.

Калі добра прыглядзецца да жыцьця гаспадароў на надзельных землях, то заўсёды даецца заўважыць, што гаспадары, якія жывуць у малых пасёлках нават у адных варунках, усё-ж такі жывуць куды лепш, чым гаспадары вялікіх вёсак. Гаспадары малых вёсак маюць больш скаціны, больш пашы, жывёла мае лепшы выгляд, дый палявыя работы—пасевы, уборка хлеба,—яны канчаюць скарэй, чым гаспадары з вялікіх вёсак, бо ня трудна зразумець, што чым большая вёска, тым больш яна расьцягнута — забудована; самыя загоны гаспадароў часта цягнуцца на 3—5 вёрст, дый паложаны не ў адным а ў трох і больш урочышчах, якія знаходзяцца далёка адно ад аднаго. Вядомая рэч, што абрабляць зямлю: вазіць гной, снапы з поля, ехаць араць, баранаваць поле, якое знаходзіцца больш, як дзьве вярсты—вельмі неспадручна, і такая гаспадарка заўсёды дае мала карысьці. Сам гаспадар толькі і бачыць сваё поле два разы ў год: калі засявае яго і зьбірае. Вучоныя гаспадары падлічылі

---

патрэбныя. Вельмі часта вялікі процант бюджэту йдзе на разьезды пана старасты, на аўтамабілі і карэты, на вялізарныя пэнсіі самаўрадовых служачых. На гаспадарчыя патрэбы астаецца надта мала. Гаспадарка павету слабая і самаўрад нічога не дае насельніцтву. Вялікай балячкай нашых самаўрадовых павятовых і валасных бюджэтаў зьяўляецца дадатак на ўтрыманьне павятовае паліцыі. Часта ён даходзіць да 20% (⅕ часьці) ўсіх расходаў самаўраду.

Соймікі павінны дабіцца таго, каб утрыманьне паліцыі йшло з сумаў міністэрства ўнутраных справаў, якое мае нагляд над паліцыяй.

Гэты выдатак нічога рэальнага не дае самаўраду, які ня можа кантраляваць, на што ідуць грошы, адпусканыя для паліцыі.

Найбольш занядбанай галінай нашага жыцьця зьяўляецца гаспадарка на зямлі, галоўны занятак сялянства.

У гэтым напрамку самаўрады павінны зварушыць вёску, памагчы палепшыць спосаб гаспадаркі на зямлі, пазнаёміць сялянства з культурнымі спосабамі работы на ёй, гадоўлі жывёлы, скрануць урэшце селяніна з прывязаньня да тых спосабаў, якія былі заведзены прадзедамі. З узростам патрэбаў у сялянскім быце, селянін мусіць знайсьці сродкі на іх здаваленьне, інакш гаспадарка ўпадзе ў галіту. Зямля ў нас не дае ўсяго, што можа даць, дзеецца гэта дзеля малакультурных спосабаў гаспадаркі на ёй.

Соймік павінен заахвочваць сялян да культурных спосабаў абработкі зямлі, вучачы сялян цераз аграномаў, ладжаньне гаспадарчых курсаў даючы падмогі на штучныя гнаі, культурныя земляробскія прылады і ўрэшце адчыняючы гаспадарчыя школы сялянскага тыпу, або хоць устанаўляючы стыпэндыі (дапамогі) для сялянскіх дзяцей, вучняў такіх школаў у іншых паветах.

Соймікі павінны памагаць сваёй вучнёўскай моладзі ў вышэйшых школах, устанаўляць стыпэндыі для студэнтаў-беларусаў, якія дагэтуль такімі дапамогамі не карысталіся, бо грошы йшлі для польскае моладзі, якая больш забясьпечана матар'яльна, чымся студэнты-беларусы.

Самаўрады ў нас ня могуць не забраць голасу ў школьным пытаньні, якое дагэтуль у загоне. У сваіх рэзалюцыях валасныя Рады і павятовыя Соймікі павінны дамагацца школы ў беларускай мове для беларускіх дзяцей, адпускаць на дапамогі для такіх толькі школаў грошы, якія зьбіраюцца з беларускага падатніка.

Самаўрад мусіць стаць разумным гаспадаром, які дбае аб збагачэньні свайго матар'яльнага дастатку і аб разьвіцьці культурным, шляхам зьдзейсьненьня загарантаваных законамі правоў для беларускага насельніцтва, якое зьяўляецца поўнапраўным грамадзянствам у Польскай Рэспубліцы. Самаўрад тады стане на правідловы шлях, зьдзейсьніць свае заданьні і падніме дабрабыт насельніцтва.

*Саўліч.*

і даказваюць, што калі поле аддалена ад сядзібы гаспадара на тры вярсты, то непрадукцыйная трата часу, маруднасьць работы зьядае ўсе даходы з далёкага поля, і такая гаспадарка апрача ўбыткаў нічога не дае.

У вялікіх вёсках сколькі часу трэба патраціць гаспадару на аб'ездкі, пакуль выедзе на дарогу, або праедзе доўгую вуліцу; сколькі бывае бяды, пры заганяньні авец, калецтва скаціны, сколькі утраты ад заразных хваробаў жывёлы, словам, у большых вёсках, мацнейшы заўсёды карыстае за кошт слабейшага, часта прыарэ кусок выгану, а то проста кавалак поля ад маламетніх. Часта ўся вёска ня ведае межаў свае зямлі або згубіла іх, вось дзеля чаго, каб кожны гаспадар адтрымаў у сваё фактычнае карыстаньне тую зямлю, якая за ім лічыцца, каб ён мог вясьці і паляпшаць сваю гаспадарку і гаспадарыць так, як пазваляюць яго здольнасьці і ўменьне, трэба абавязкова хутчэй выдзяляцца на хутарскія гаспадаркі, заводзіць сады, сеяць болей канюшыны з цімафейкаю, лепш угнойваць і абрабляць зямлю, ад чаго павышаецца ўраджай, а разам і дабрабыт гаспадара. З кожным годам людзям становіцца больш цесна на зямлі, і трэба хутчэй кідаць старасьвецкую гаспадарку на трохпалёўцы. *Я. Х.*

## Як перайсьці да шматпалёўкі і выбраць пладазьмену.

У папярэдніх гаспадарчых парадах мы часта гаварылі аб тым, што галоўным і неабходным заданьнем кожнага селяніна ёсьць пераход да шматпалёўкі, да гаспадаркі больш інтэнсыўнай. Цяпер пагаворым аб тым, як да яе перайсьці і як выбраць пладазьмену. Шмат прыдумана добрых пладазьменаў. Трэба ўважліва пераглядаць іх, абмеркаваць і рашыць, якая пладазьмена да гаспадаркі падыйдзе лепей.

Справа гэта вельмі важная і трэба, як кажуць, сем разоў адмераць, а потым ужо адзін раз адрэзаць. Найлепш у кожным паасобным выпадку парадзіцца з аграномам, які добра ведае мясцовыя варункі. Аднаму трэба болей корму для жывёлы, другому—больш бульбы, трэцяму—збажыны, усё трэба добра ўзважыць. Трэба лічыцца з тым, у якім сельска-гаспадарчым раёне гаспадарка знаходзіцца, бо ў кожным раёне, ў залежнасьці ад якасьці грунту, будзе пашырацца тая ці іншая пладазьмена. Ня трэба баяцца, што пры шматпалёўцы будзе меней хлеба. Хоць зямлі пад сяўбу збажыны можа адыйсьці меней, чым было раней, але ўсё-ж такі ўраджаі пры шматпалёўцы бываюць такія, што з меншага поля збажыны адтрымаецца куды болей, чым пры трохпалёўцы. Пры шматпалёўцы заўсёды можна трымаць больш жывёлы і мець у гаспадарцы больш малака, бо шматпалёўка дае вельмі шмат корму. Перад тым як пераходзіць да шматпалёўкі, трэба ўсё добра абдумаць, а галоўнае трэба трымацца гэткіх правілаў:

1) каб ішлі па сабе расьліны з living рознымі варункамі жыцьця. Адна расьліна, напрыклад, забірае з грунту адны кармавыя матэрыі, другая іншыя;

2) каб да добра пагноенае глебы прыйшлі расьліны, якія за гной найбольш удзячны: караньплоды—бульба, буракі;

3) каб пасьля расьлінаў, якія збіраюць у грунце азот (матыльковыя), прышлі расьліны, якія вымагаюць найбольш азоту, напрыклад, бульба ці буракі;

4) каб да старое сілы грунту па гнаі прыйшлі расьліны, якія найбольш такога стану вымагаюць і найбольш за яго ўдзячныя (збожжа);

5) каб пасьля расьлінаў, якія маюць невялікае карэньне, ішлі расьліны з карэньнямі доўгімі. Напрыклад, пасьля збожжа, канюшына, віка, сарадэля;

6) каб пасьля расьлінаў з вялікімі лістамі, якія зацямняюць грунт і добра гаспадараць з вадою, ішлі расьліны з меншымі лістамі. Напрыклад, пасьля бульбы ці буракоў — збожжа;

7) каб ня ішлі па сабе расьліны, на якія нападаюць аднолькавыя апівошы і хваробы;

8) каб пасьля збору адной расьліны было даволі часу на апрацоўку грунту і сяўбу другой расьліны.

Пераходам ад трохпалёўкі да шматпалёўкі можа быць чатырохпалёўка, гэтак званая сыстэма Нарфольская, дзе за караньплодамі, пад якія даецца гной, ідзе ярына, па ярыне канюшына, а пасьля, на чацьвёрты год, азімыя.

У залежнасьці ад мясцовых варункаў, ад цэнаў на збожжа, ад таго, якога корму гаспадар больш патрабуе, шматпалёўку можна камбінаваць самымі рознымі спосабамі. Нельга сказаць, што вось тая ці іншая шматпалёўка найлепшая. Найлепшая шматпалёўка ёсьць тая, якая найбольш адпавядае варункам у гаспадарцы.

Часта садзіцца, напрыклад, бульба і два гады на адным месцы, каб скарыстаць з добра апрацованага грунту. Пасьля бульбы толькі ніколі ня трэба даваць матыльковых (канюшына), бо яны самі, зьбіраючы азот, ня могуць яго скарыстаць пасьля добра ўгноенай зямлі па караньплодах. У сельскай гаспадарцы шматпалёўка дыктуецца ў першую чаргу патрэбамі гаспадаркі. Гаспадар мусіць пасеяць столькі збожжа ці бульбы, каб хапіла на цэлы год. *П.*

## Як малацілі калісь і як малоцяць цяпер.

Увосень самая вялікая праца, якая адымае найбольш часу ў нашага гаспадара, — гэта малацьба. Яшчэ і цяпер у нас распаўсюджана малацьба цапамі; малоціць гаспадар цэлую восень і зіму, абліваецца потам і ўсё-ж такі збожжа ня зусім добра вымалочваецца, асабліва калі трохі яно сыраватае, і некалькі пудоў збожжа ў гаспадара кожны год прападае так зусім дарэмна ў саломе. Веялкаю збожжа ня можна так добра рассартаваць і вычысьціць і ў насеньні заўсёды застаецца многа ўсялякіх плевелаў, якія пасьля засьмечваюць поле і адбіраюць гэткім чынам пажыўныя сокі з зямлі.

За некалькі гадоў перад вайною пачалі ў нас зьяўляцца фабрычныя малатарні, і хоць яны яшчэ ня былі дасканальна зроблены і вымагалі вялікае сілы пры адносна малой выконнасьці, ўсё-ж такі гэтыя малатарні пачалі хутка пашырацца. Сярод дробнага сялянства найбольш пашырыліся ў некаторых паветах малатарні ручныя.

Пасьля вайны ў удасканаленьні малатарняў было шмат чаго зроблена: пачалі зьяўляцца

ў нас малатарні зусім іншае сыстэмы, і некаторыя з іх заслугоўваюць найбольшае ўвагі. Гэтымі малатарнямі можна малаціць усялякае збожжа, нават і канюшыну, апрача таго бывае зроблены каласьнік, для ячменю. Каб лепш было малатарню перавозіць з аднаго месца ў другое, яна пастаўлена на калёсы, і гэткім чынам яе можна лёгка перавозіць ад суседа да суседа. Вымагаючы толькі 3—4 конскіх сілаў, гэткая малатарня вымалочвае ў працягу аднаго дня каля 300 пудоў збожжа. Збожжа выходзіць зусім чыстае, рассартованае і само сыплецца ў мяшкі. Вельмі часта да такіх малатарняў яшчэ можна далучыць пераносны млінок, каб можна было збожжа і малоць.

Калі купляем малатарню, то заўсёды мусім вымагаць, каб яна чыста вымалочвала збожжа, каб у коласе не заставалася ніводнага зярняці, каб зярняты выходзілі чыстыя, непарушаныя і каб пры найменшай затраце сілы вымалочвалася якнайбольш збожжа.



Гэтым варункам з малатарняў найбольш адпавядае малатарня ад чэскае фірмы Віхтэрле і Каважык, склад якіх у нашым краі знаходзіцца ў Вільні (Завальная 11-а „Zygmunt Nagrodzki“). Дзеля таго, што гэткую малатарню аднаму гаспадару купіць цяжка, то найлепш злажыцца некалькім гаспадаром, стварыўшы нейкае таварыства і купіць разам. За 2—3 гады гэткая малатарня сябе акупіць і, апрача таго, гаспадары будуць мець чыстае збожжа, лепшае насеньне, ад якога вельмі залежыць і ўраджай. Памятуйце, што ад лепшых ураджаяў, ад лепшае тэхнічнае культуры залежыць і лепшая будучына нашага краю.

## Рабем куратнікі.

Дабрабыт селяніна зьяўляецца галоўным чынам ня толькі ў эканамічных абставінах, а і ў гігіенічных таксама. Ведама-ж кожнаму, што калі чалавек здароў, дык і багаты. Наадварот, багатага чалавека, які ня мае адпаведнага здароўя (напрыклад сухоты), можна лічыць паміж людзьмі найбяднейшым, бо што-ж варта багацьце, калі трэба ўжо чакаць сьмерці! У даным выпадку рэч аб тым, як забясьпечыць сабе дабрабыт, як з боку эканамічнага, так і гігіенічнага.

Справа ў тым, што па нашых вёсках яшчэ і дагэтуль вядзецца звычай зачыняць узімку куры па хатах у падпечкі, дзе яны ў гэтых цёмных катухох праз увесь час зімовае пары трымаюцца. Калі-ні-калі гаспадыня ўздумаець дый выпусьціць на хату, каб куры параўнялі сабе ногі ды ўзноў туды.

Якая карысьць будзе для гаспадара, калі будзе кураняты трымаць у асобна зробленым хляве, відаць з вышэй пададзенага; куры трыманыя пад печкамі, ад розных прычын перастаюць нясьціся, бо шкодзіць ім цеснае памешканьне, цемната, непамерная цяплыня і інш. У хлявох-куратніках куры будуць мець усё тое, што патрэбна і неабходна ў сэнсеноскі яек. Дык зразумела, што пры такім самым кармленьні, але калі будзем трымаць куры ў збудаваных для гэтае мэты куратніках, будзем мець карысьць. Гэта ў эканамічным сэнсе. У гігіенічным будзе вось што: усякая нечыстата, па сваёй меры, псуець паветра. Куры, трыманыя ў хаце, робяць нечыстату, ад чаго ў той-жа хаце псуецца паветра настолькі, што трудна дыхаць, як быццам чалавеку ўзваліласа калода на грудзі. З дарослымі яшчэ таксяк: пойдзе даглядаць жывёлу, ці паедзе ў лес па дровы, нахватаецца і чыстага паветра, а дзеці праз усю зімовую пару мусяць глытаць удушлівае паветра без перарыву.

Яшчэ адна шкода ад трыманьня курэй у хатах. Хай будзе найпрыгажэйшая дзеўка, а калі ў яе ў хаце куры лётаюць то па лавах, то па падушках, дык (дужа перапрашаю!) адбіваецца нейкая брыдкасьць ня толькі на прыгожасьці, але і на вартасьці асобы.

Усё гэта злучыўшы разам дае повад думаць, што неабходна трэба прыступіць да збудаваньня куратнікаў.

Як-жа маем зрабіць куратнік, каб ён быў адпаведным для мэты кураводзтва?

Трэба помніць, што калі куры парашым раз на заўсёды ня трымаць па хатах, дык рабем і куратн к, як мае быць, каб часам потым не перарабляць яго і, крый Божа, каб узноў не вяртацца да старога звычаю дзяржаць куры ў хатах.

Дапусьцім, што ў даны момэнт куратнік складаецца, галоўным чынам, з страхі з двума схіламі на адзін і другі бок, каторая амаль ня зусім апіраецца на зямлю. Бакавыя сьценкі гэтага куратніка маюць два футы, ці прыблізна $1/2$ мэтра вышыні, а самы грэбень страхі вышыца на 2 мэтры. Калі, напрыклад, будуем куратнік на 15 курэй, дык велічыня яго павінна быць $12\times12$ футаў ці прыблізна $3^1/_2\times3$ мэтры. Страха крыецца саломаю ці дошкамі.

Зруб можна ставіць з бярвёнаў. Пярэдняя і задняя сьценкі могуць быць з дошчак у два рады, каб паміж дошчак можна было насыпаць пяску, апілак ці запхаць мохам. Куратнік павінен быць павернуты на поўдня. Вакно можа быць якой хочаш велічыні, каторае трэба параплясьці дротам, каб куры не павыбівалі шыбаў. Куратнік можа быць і без падлогі, але тады неабходна зямлю ўтаптаць, падмяшаўшы гліны, заліць вапнай і высыпаць у некалькі цаляў пяском, а паверх яшчэ торфам. Для праветраваньня куратніка ў дзьвярох павінна быць зроблена ваконца, пераплеценае дротам з сярэдзіны, а адчынянае на двор. Унутры куратніка ўдоўж задняе сьценкі прыстройваецца на трох стоўбіках навесік для гнёздаў, над каторым крыху вышэй робіцца наседкі.

Пры будоўлі куратнікаў трэба бярвёны і дошкі ўкопваць у зямлю да глыбіні $1/3$ мэтра, каб часам шашкі не маглі падкапацца пад сьцяну і не падушыць курэй.

Дык даволі ўжо трымаць куры па хатах, а трымайма іх у асобных куратніках, збудаваных для гэтай мэты.

*Янка Тарыкоў.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Як перашкодзіць раеньню.

Хто хоча мець многа мёду і не павялічваць лічбы вульлёў, той не павінен даваць пчолкам раіцца. Зрабіць гэта бывае часам вельмі трудна, дзеля таго, што калі пчолкі заразіліся раявою гарачкаю, то ніякія выдумкі пчаляра ня могуць часам гэтаму перашкодзіць. Але калі загадзя прыняць усе магчымасьці, то можна перашкодзіць раеньню. Дзеля гэтага трэба заўсёды расшыраць вулей вонках настаўкамі, так каб для пчолак было чым болей месца. Пчаляр болей-меней азнаёмлены з пчалярствам, напэўна ведае, што такое настаўкі. Гэта такія скрынкі з рамкамі, якія, калі пчолкі занясуць усё гнязло і ім мала месца ў вульлі, ставяцца на верх вульля. Пчолкі зараз-жа пачынаюць работу ў настаўках і калі запоўняць адну настаўку, трэба паставіць ім другую (болей наставак звычайна ня ставяць у вульлёх, як дзьве, бо пакуль пчолкі занясуць гнязло і дзьве настаўкі, то работы гэтае хопіць ім да халадоў). Вось-жа пытаньне: чаму пчолкі трацяць ахвоту да раеньня, калі ім даць многа прастору ў вульлі? Дык гэта і робіцца толькі таму, што яны маюць многа месца і ім ня цесна. Тады яны зьніштажаюць маладых матак, прагрызшы матачнікі з боку і не раяцца зусім.

Другі спосаб, каб перашкодзіць раеньню пчолак гэткі: трэба даваць матпы якнайболей месца на чарву. Робіцца гэта ў рамовых вульлёх гэтак: бяром сярэднія гнездавыя рамкі з чарвою, перастаўляем іх у вулей, дзе маем слабейшыя пчолкі, а на іх месца ўстаўляем пустыя рамкі з вузою, альбо са штучнаю альбо з натуральнаю, калі яна ёсьць у запасе. Рамкі з мёдам гэтак сама трэба выняць, ня ўсе разумеецца. Наагул, якім-бы спосабам мы ні стараліся перашкодзіць раеньню, то трэба старацца даць пчолкам якнайболей месца ў вульлі.

Матку можна таксама аддзяляць цынкавою рашоткаю (яна баіцца цераз яе лезьці і дзеля таго тая вўза, якая знаходзіцца за рашоткаю, будзе вольнаю ад чарвы), альбо можна нават пасадзіць матку, каб яна не чарвіла, ў адумысную клетачку, так што пчолкі яе могуць карміць цераз шчылінкі, а яна выйсьці ня можа. Гэткім спосабам матка болей не кладзе яечак і раеньне спыняецца. Калі нават у гэткім выпадку пчолы і выляцяць з вульля, то яны хутка вяртаюцца, дзеля таго, што матка ня можа ляцець з імі. Калі-ж, ня гледзячы на ўсе перашкоды, пчолкі ўсё-ж такі хочуць раіцца, то трэба выняць усе рамкі з чарвою, з данага вульля, зьмясьці з іх пчолак назад у вулей, а на месца вынятых рамак, уставіць новыя і пры тым пустыя без чарвы.

Гэты спосаб заўсёды перашкаджае раеньню і работа ў настаўках і ў гнязьдзе ідзе надта хутка.

Паўстае пытаньне, дзеля чаго часам перашкодзіць, ці задзяржаць раеньне карысна для пчаляра? Вось-жа бывае гэта карысна дзеля таго, што, калі мы ня хочам мець болей вульлёў пчол на пчальніку, як патрэба, то тыя раі, якія выходзяць, зьяўляюцца для нас лішнімі і іх усё роўна трэба пускаць на старыя пчолы, а гэта-ж зьяўляецца лішнім клопатам для пчаляра, дзеля гэтага лепей зусім ня пусьціць рою, дык і клопатаў для нас будзе меней і вулей, з якога мы ня пусьцім рою, будзе мацнейшы і наносіць болей мёду. Далей, гэта карысна і дзеля таго, што калі мы ўжо маем на пасецы 50 вульлёў, то мець болей, гэта ўжо лішняе, дзеля таго, што пашы пчолкам ня хопіць у ваколіцы.

*Пчаляр.*

# Гаспадарчыя парады.

## Як даглядаць карову.

Сяляне кормяць сваіх кароў пераважна сенам, саломай, мякінай і мала даюць моцнага корму—мукі, высевак, макухі або жмакоў.

Сена часта кідаюць на падсьціл; яго карова затоптвае нагамі, і яно дарэмна глуміцца. Каровы часта стаяць у халодных цёмных хлявох з дрэнным паветрам. Вады часта не даюць і замяняюць яе памыямі.

Каб карова давала шмат малака, трэба перш за ўсё зрабіць яслі і цёплы, сьветлы хлеў. Але самае важнае—карову трэба карміць па яе вазе.

У нас, на Беларусі, сярэдняя вага каровы—15 пудоў, малака-ж яна дае 5 кварт на дзень.

Каб такая карова не спадала ў вазе і не збаўляла малака, ёй трэба даць на дзень 32 ф. сена. Звычайна столькі сена не даюць, а дабаўляюць ці больш моцны корм, як вотрубі, ці больш слабы, як салома.

Сяляне Даніі вылічылі, што адзін корм можна замяніць другім. Так, 1 фунт вотрубей замяняе 3 фунты сена або 6 фунтаў саломы.

Каб лепей было вясьці разьлічэньні пры замене аднаго корму на другі, умовіліся ўсё пераводзіць на моцны корм, лічачы 1 фунт такога корму за 1 кармавую адзінку. Такім чынам, 32 фунты сена складаюць каля 11 кармавых адзінак, бо 1 кармавая адзінка=3 ф. сена.

Гэтыя 11 кармавых адзінак можна мець з розных кармоў.

## Выбірай добрых цялят на племя.

Страціўшы апошнія грошы, каб купіць карову, селянін думае, разумеецца, што гэта карова дасьць яму і малака шмат, і ад яе будзе насьледзтва. І вось тады толькі ён пачынае задумвацца над гэтым пытаньнем, калі пачынае бачыць, што ўзгадованая ім карова ці цялё ад яе не апраўдвае ніякіх надзеяў і ня можа нават вярнуць корму, затрачанага на яе.

Праўда, многіх і гэта ня зьдзіўляе, і яны спадзяюцца, што пасьля другога ацёлу карова будзе даваць больш малака, і дзяржаць яе яшчэ год, пакуль ня ўбачаць, што яна нікуды ня варта.

Гэта залежыць ад таго, што цялят астаўляюць на племя бяз усякага разбору. Не глядзяць ні на якасьць цяляці, ні на якасьць маткі-каровы і быка, з якім яна была злучана.

Як-бы то ні было, а пакідаць на племя цялят можна толькі ад добрай каровы і, разумеецца, ад каровы здаровай.

Першае цяля пакідаць на племя ня раіцца, бо яно бывае заўсёды слабым і родзіцца ў цяжкіх муках, што таксама ад'зываецца на яго здароўі.

Двойні звычайна бываюць слабейшыя, чым адзіночкі і кепска разьвіваюцца. Што-ж датычыц-

ца неданошаных цялят, то аб іх вырашчываньні і думаць няма чаго.

Дрэнны ўдой каровы гаворыць за тое, што чакаць ад яе малочнага насьледзтва вельмі небясьпечна. Толькі здаровая і малочная карова, злучаная з добрым быком, можа даць добрае цяля.

# Корэспондэнцыі.

## Народны Дом у Сьвержані, Стаўпецкага павету.

У нядзелю 19-га верасьня г. году, пасьля доўгіх прыгатаваньняў і рамонтаў, нарэшце адбылося адкрыцьце „Народнага Дому“ у Сьвержані, інстытуцыі надта карыснай для нашага сялянства, дзе яно можа даведацца аб усім, што дзеецца на шырокім сьвеце і дзе яно можа заспакоіць свае духовыя патрэбы і наагул дзе яно можа духова разьвівацца і ўдасканальвацца. Гэтае зразуменьне справы і выявіла сялянства ў тым, што амаль усё са Сьвержаня прышло на гэтую ўрачыстасьць адкрыцьця „Народнага Дому“. Спадзявалася яно зусім не таго, што на гэтай урачыстасьці убачыла.

Факт вельмі балючы і сумны. Яго сыны, яго інтэлігэнцыя, даўнейшыя вучыцялі, якіх у Сьвержані знойдзецца з дзесяток, зусім адарваліся ад сялянства і паказалі сваю паўпанскую натуру, а паказалі ў тым, што адракліся нават ад яго сьвятасьці, мовы, і не хацелі паказаць, што яна ёсьць хоць простая, але ня ўступаючая нічуць другім мовам у сваём харастве і прыгожасьці.

Якія пабудкі кіравалі былымі настаўнікамі, сяляне не зразумелі зусім, не зразумелі таго, чаму іх інтэлігэнцыя выказвае на гэтай урачыстасьці сваю вышэйшасьць, сваю паўпанскасьць... і разам сваю крывадушнасьць. Можа мы зразумеем усё, як паглядзімо, як гэтая ўрачыстасьць адбылася, на якую прыбыў нават і пан стаўпецкі стараста, які і ўзяў першае слова. У прамове сваёй пан стараста надта разумна гаварыў аб значэньні „Народнага Дому“, а пад канец нават зазначыў, што ён ня хоча, каб гэты „Народны Дом“ быў нейкаю паляністычнаю пляцоўкаю, а ён хоча, каб гэты „Народны Дом“ служыў вялікай ідэі асьветы і культуры і каб у ім аднолькава мелі прыпынак Беларусы, Палякі і Жыды. І што-ж аказалася па ўсім гэтым? А аказалася тое, што ў Сьвержані няма зусім Беларусаў, (хаця яны і былі на сабраньні, амаль што ня выключна), а ёсьць толькі Палякі і Расейцы.

Віна ў гэтым нашай сьвяржанскай інтэлігэнцыі, якая ня мела грамадзкай адвагі прызнацца да свае беларускасьці і да беларускасьці жыхароў мястэчка Сьвержаня. Бо калі пан стараста кончыў сваю прамову і на трыбуну пачалі вылазіць адзін за адным і прамаўляць нашыя інтэлігэнты, то яны, з невядомае прычыны, пачалі прамаўляць або папольску альбо парасейску. Гэтым паставілі ў тупік і сялянства, і пана старасту, і сябе. Зрабіліся некімі немцамі, якіх ніхто не разумеў, ані паляк з Варшавы і ані беларус са Сьвержаня, так сама не зразумеў-бы іх і маскаль з Масквы — гэта было некае новае славянскае „esperanto“, якое ніколі ня знойдзе прызнаньня і прыхільнікаў у жыцьці.

Па прамовах выбралі ўрад, у які ўвайшлі амаль ня ўсе нашыя прамоўцы. Чаму сталася так — загадка незразумелая, нейкая мусіць „vis maior“ зрабіла гэта, а можа і тое, што нашае сялянства заўсёды ня надта шчыра прыступаець да гэткіх справаў, лёзунгам нашага сялянства ёсьць у такіх справах: „Хоча — няхай будзе“. А яно гэтак не павінна быць, павінна быць зразуменьне справы і таго, што робіцца. Бо, як аказалася, урад выбраны сялянамі зусім не салідарызуецца з імі і ня думаець рабіць гэтага (цяпер сяляне хіба ўжо разумеюць, каго яны выбралі). Яны павінны разумець і тое, што з тымі яны знойдуць, чаго шукаюць, хто ідзе з імі, а ня проці іх. Бо-ж урад „Народнага Дому“ і ня думаець ісьці з імі, а стараецца яшчэ шкодзіць ім, шкодзіць у тым, што з „Народнага Дому“, пляцоўкі культуры, робіць некую крамку, а ня тое, што з сябе прадстаўляець „Народны Дом“ у яго праўдзівым значэньні. Ці-ж можна рабіць тое, што робіць гэты ўрад? Ён, прыкладам, не даець залі пад спэктакль-вечарыну, а калі даець, то таргуецца, як у крамцы, скольки мусяць заплаціць, альбо, калі аматарскі гурток беларускае моладзі ставіў спэктакль-вечарыну 2-га кастрычніка, на якой была адыграна „Цыганка“, то ўрад толькі згадзіўся даць тады залю, калі ўвесь прыход пойдзе на „Народны Дом“, хаця гэты гурток хацеў паставіць вечарыну на другую, болей дабрачынную, мэту, а не сабе ў кішаню. Са ўсяго вышэйсказанага, сяляне павінны зразумець сваіх выбранцаў і свой фальшывы лёзунг: „Хоча—няхай будзе!“

*Сьвяржанін.*

### Беларускія школы ў Палескім вокрузе.

У гэтым годзе ў межах Палескага вокругу адчыняюцца беларускія і польска-беларускія ўрадовыя народныя школы ў наступных мясцовасьцях:

| №№ | Тып і мясцовасьць школы | Павет | Воласьць | Якая школа |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1-кл. школа ў Хлюпічах . . . | Баранавіцк | Вольна | беларуская |
| 2 | 2-кл. шк. ў Вялікай-Мядзьведцы | „ | „ | „ |
| 3 | 5-кл. школа ў Гарадышчы . . | „ | Гарадышча | польск.-белар. |
| 4 | 2-кл. школа ў Жалезьніцы . | „ | „ | „ |
| 5 | 1-кл. школа ў Канюхох . . . | „ | Ляхавічы | „ |
| 6 | 8-кл. школа ў Галынцы . . . | „ | Вольна | „ |
| 7 | 2-кл. школа ў Ябланоўшчыне | Нясьвіжскі | Гарадзея | беларуская |
| 8 | 1-кл. школа ў Бартнавічах . . | Пружанскі | Руднікі | „ |
| 9 | 1-кл. школа ў Ялсвай . . . | „ | Сухаполь | „ |
| 10 | 4-кл. школа ў Блудні . . . . | „ | Картуз-Бяроза | польск.-белар. |
| 11 | 2-кл. школа ў Хвалаве . . . | „ | Сухаполь | „ |
| 12 | 2-кл. школа ў Раўбецку . . . | „ | „ | „ |
| 13 | 4-кл. школа ў Пагарэльцах . | Стаўпецкі | Ярэмічы | „ |
| 14 | 2-кл. школа ў Загор'і . . . . | „ | „ | „ |
| 15 | 6-кл. шк. у Вялікіх-Жухавічах | „ | Жухавічы | „ |

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Арышт Антона Луцкевіча.

12.X пасьля вобыску арыштавалі ў Вільні вядомага беларускага нацыянальнага дзеяча Антона Луцкевіча. Польскія газэты падаюць, што гэты арышт зьвязаны з прыналежнасьцяй Луцкевіча да Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, у якой Луцкевіч быццам адыгрываў кіраўнічую ролю, што зьяўляецца няпраўдаю, бо Луцкевіч у свой час публічна заявіў у „Przeglądzie Wileńskim“, што ён сябрам „Грамады“ не зьяўляецца. Вядома нам, што ў свой час Луцкевіч быў працаўнікам падзелу Беларускага Пасольскага Клюбу на клюб грамадаўскі і клюб Ярэміча, быў таксама працаўнікам залажэньня „Грамады“ ў той форме, ў якой яна паўстала з матываў чыста нацыянальна-незалежніцкіх. Напэўна яго арышт зьвязаны з тым, што ён, як журналісты, працаваў у грамадаўскіх газэтах, адказнасьці за напрамак якіх, зразумела, ён нясьці ня можа. Луцкевіч належыць да найстарэйшых беларускіх адраджэнцаў, зьяўляецца выдатным культурным і навуковым працаўніком на ніве беларускага адраджэньня, аўторам вельмі талентных крытычных артыкулаў аб беларускай літэратуры, адным з арганізатараў беларускае гімназіі ў Вільні і музэю. Арышт яго значна падарвець культурную беларускую працу, і адбіўся прыкрым рэхам сярод беларускай інтэлігэнцыі, якая бяз розьніцы палітычных перакананьняў, шануець Луцкевіча, як выдатную беларускую, інтэлектуальную сілу.

### Да адчыненьня вышэйшае студыі беларусазнаўства.

Праца над падрыхтоўкай да адчыненьня студыі значна пасунулася наперад. Ужо выпрацаваны плян работы і склад лектароў. Курс проектуецца двулетні.

### Зьезд Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі.

На 6 лістапада г. г. скліканы гадавы зьезд бел рускае хадэцыі. Проектованыя выбары ў Сойм змушаюць беларускія партыі да ажыўленьня працы.

---

# Апошнія навіны.

**Польшча.** Як мы ўжо пісалі, польскія ўлады ў адказ на гвалты, даконваныя над польскімі грамадзянамі ў Літве, арыштавалі ў Польшчы літоўскіх дзеячоў і зачынілі частку літоўскіх школаў.

— 9.X.27 адбыўся ўрачысты абход 7 угодкаў звальненьня Вільні ад ліцьвіноў. На ўрачыстасьць прыехалі ў Вільню амаль усе міністры з марш. Пілсудскім на чале і гэн. Жэлігоўскі. Адбылася вайсковая парада. У выніку нарадаў, якія адбыліся між марш. Пілсудскім і міністрамі, а таксама ваяводаю і віленскім арцыбіскупам, амаль усіх ліцьвіноў звольнілі. Ёсьць чуткі, што ў хуткім часе звольняць усіх.

— Па доўгіх і цяжкіх перагаворах, Польшча адтрымала пазыку. Перагаворы цягнуліся доўга таму, што прадстаўнікі фінансавых сфэраў ставілі даволі цяжкія варункі пазыкі, на якія польскі ўрад не хацеў згадзіцца. У канцы, амэрыканцы ўступілі і згадзіліся на прапазыцыі польскага ўраду. 12.X. міністар фінансаў падпісаў дагавор аб пазыцы. Такім чынам, польскі ўрад адтрымаў пазыку ў суме больш, як 70 мільёнаў даляраў. Ёсьць надзея, што дзякуючы пазыцы эканамічнае жыцьцё ў дзяржаве палепшыцца.

— Выбары ў мястовыя рады ў цэлым радзе вялікіх гарадоў, як Лодзь, Каліш, Люблін, Горадзен, Ломжа і г. д. далі перавагу левым партыям. Найболей мандатаў адтрымалі соцыялістыя. Уплывы камуністых у прамысловых асяродках даволі вялікія. Эндэцыя ўсюды траціць уплывы. Не памагае зьмена назову і іншыя штучкі.

— У Львове ў сувязі з выкрыцьцем друкарні, дзе друкаваліся праклямацыі аб забойстве гэн. Загурскага, што ёсьць звычайным фальшам, улады спынілі дзейнасьць „Лагеру Вялікай Польшчы“ (эндэцыя) на абшары Усходняй Галічыны. Эндэкі, такім чынам, сталі „антыпаньствоўцамі“

**Францыя.** Конфлікт з савецкім паслом канчыцца. Ракоўскі ўступіць. Саветы ў клопаце, каго назначыць на яго месца. На некаторых кандыдатаў французскі ўрад ня даў свае згоды.

**Югаславія.** На Балканах ізноў узьнік конфлікт, які мала ня скончыўся вайною. Аддзелы македонскіх камітаджаў штораз часьцей нападаюць на абшар Югаславіі або Грэцыі хочучы давясьці да вайны і да стварэньня незалежнай Македоніі. Нядаўна македонцы зрабілі замах на югаславянскі цягнік, а перад некалькімі днямі забілі ў Белградзе сэрбскага гэнэрала Кавачэвіча. Югаславянскі ўрад выслаў ультыматум Баўгарыі, на абшары якой быццам формуюцца банды. Дайшло, аднак, да паразуменьня. Як бачым, нацыянальнае пытаньне ўсюды стаіць рубам.

**Літва.** Газэты падаюць, што ўрад Вальдэмараса ў хуткім часе мае ўступіць. Яго месца мае заняць вайсковая дыктатура. Да чаго яна давядзе— вось пытаньне, на якое, пакуль што, трудна даць адказ.

---

**Папраўка.** У № 29 „В. Д.“, у артыкуле „З жыцьця Наваградчыны“ (4-ая стар. 2-ая шпальта, 8-9 радок зьверху) ўбілася карэктарская памылка — надрукавана: „атрымае ўрадовыя грошы“, а павінна быць: замест слова „грошы“ — слова *правы*.

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.